*Заўтра, 25 ліпеня, апошні дзень, калі яшчэ можна аформіць падпіску на “Народную Волю” з тым, каб атрымліваць яе з 1 жніўня.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 58 (4310)**

24 ліпеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ШТО ТАМ, НА ПАЛЕТКАХ?



## Ураджайнасць расце, а вось тэмпы жніва не радуюць…

Учора ў другой палове дня на рэдакцыйным стале з’явілася чарговая зводка аб ходзе жніва ў рэспубліцы. З аднаго боку, яна парадавала. У нядзелю сельгаспрадпрыемствы выйшлі на сярэднюю ўраджайнасць зерня 32 цэнтнеры з гектара. А калі браць з пачатку жніва, то намалоты на круг падскочылі амаль да 29 цэнтнераў. Ёсць спадзяванні, што з выхадам камбайнаў на ўчасткі, якія менш пацярпелі ад няспрыяльнага надвор’я, ураджайнасць хлебнай нівы будзе падвышацца.

За папярэдні дзень зернявыя былі абмалочаны з плошчы, якая склала 2,07 працэнта ад агульнай. З-за дажджоў тэмпы жніва нізкія. Пакуль збожжавыя ўбраны толькі з кожнага сёмага гектара.

**Рыгор КІРЭЕЎ.**

СЕЗОННАЯ РАБОТА

## «Дачка зарабіла на чарніцах 800 рублёў…»

*Летам у вёсках многія людзі выжываюць за кошт збору ягад і грыбоў.*

Для вяскоўцаў лета – гэта не адпачынак, а амаль заўсёды – нялёгкая работа. Менавіта ў летні сезон некаторыя вырашаюць паправіць свой фінансавы стан за кошт таго, што “лес падорыць”.

Калі ў мінулым годзе чарніц у многіх рэгіёнах краіны практычна не было, то ў гэтым годзе праблем з гэтай ягадай няма. Пры гэтым чарніцы альбо грыбы можна здаць штодзень. Напрыклад, у Вілейскім раёне наўпрост па вёсках ездзяць прадпрымальнікі, якія прымаюць тавар у насельніцтва: чарніцы – па 3 рублі 50 капеек за кілаграм, лісічкі – па 6 рублёў. Натуральна, цэны амаль у два разы меншыя за рыначныя, але пры гэтым перабіраць ягады і грыбы не трэба.

*“Некаторыя па два разы на дзень у лес ходзяць, таму зарабляюць па 50–70 рублёў за паўдня работы,* – распавядае мне жанчына, якая прымае тавар. – *Калі добра папрацаваць, то за месяц атрымліваецца каля 1–2 тысячы рублёў, хаця праца вельмі цяжкая. Але асабіста мая дачка, якая ў верасні пойдзе ў сёмы клас, за сезон ужо зарабіла на грыбах-ягадах 800 рублёў, так што не трэба думаць, дзе шукаць грошы, каб сабраць яе ў школу. Ды і ўвогуле, для вёскі гэта добрыя грошы, хаця ўсе разумеюць, што прадпрымальнікі плацяць людзям значна менш”.*

Дарэчы, у Вілейскім раённым спажывецкім таварыстве таксама прымаюць грыбы і ягады.

*“Чарніцы зараз бяром па 3 рублі 80 капеек за кілаграм, лісічкі – па 5, дурніцы – па 2 рублі,* – кажуць там. – *Вішні раней прымалі па 1 рублі за кілаграм, чорныя і чырвоныя парэчкі – па 20 капеек”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Якубовіч перасеў на верталёт

*З 24 па 29 ліпеня пад Мінскам пройдзе чэмпіянат свету па верталётным спорце і авіяфестываль “Пранеба”.*

У адкрыцці мерапрыемства прыме ўдзел і расійскі тэлевядучы **Леанід Якубовіч.** Ён вядомы як вялікі аматар авіяцыі і нават мае пасведчанне пілота.

Плануецца, што Якубовіч падыме ў паветра верталёт Мі-2.

У 16-м чэмпіянаце свету па верталётным спорце возьмуць удзел каманды з Аўстрыі, Беларусі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Кітая, Польшчы, Расіі, Украіны, Францыі, Чэхіі і Швейцарыі.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ТИХАЯ ОХОТА

Татьяна ПРОТЬКО:

## «Не в Америке растут такие грибы!»

*Два дня назад кандидат философских наук, историк и экс-председатель «Белорусского Хельсинкского комитета» Татьяна Протько похвасталась своим грибным счастьем.*



«*Первые в этом году,* – довольно сообщила Татьяна Сергеевна. – *И первые в моей жизни такие большие и красивые. Гигантов было шесть – один подарили моей приятельнице. Маленьких – двадцать. Интересно, что белые были двух типов – летние и те, что собираем осенью. И это в июле!*»

“Народная Воля” расспросила Татьяну Протько о том, в какие места она обычно отправляется за грибами. Потому что некоторые, увидев фотографию, предположили, что грибы правозащитница собирала в Америке, где у нее живет дочь.

*(Окончание на 2-й стр.)*



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Дело Василия Леонова

Прочел информацию о том, какие новшества предлагает правительство для агропромышленного сектора. Вице-премьер Михаил Русый «дозрел»: 25% плюс одну акцию (блокирующий пакет) будут получать руководители предприятий агропромышленного комплекса, если в течение нескольких лет их бизнес-план будет реализован.

И я тут же вспомнил о Василии Леонове. Человеке, который предлагал поставить сельское хозяйство Беларуси на рыночные рельсы еще в прошлом веке, хотя и при нынешнем президенте. И верил в то, что когда-нибудь это случится.

И поначалу я даже обрадовался: вот, Василий Севастьянович, идеи ваши наконец востребованы! Вынуждена была даже эта власть признать вашу правоту.

А потом радость куда-то ушла. И вот почему.

Леонов предлагал поставить на рыночные рельсы самоуправляющееся крестьянское хозяйство. В котором был выборный председатель, а правление, состоящее из ведущих специалистов, определяло, каким образом расходуются деньги и как распределяется прибыль. В те времена – до разгрома легендарного «Рассвета», которым руководил Василий Старовойтов, это все еще было. 20 лет назад. Были специалисты, готовые этим заниматься. Была колхозная элита, которой искренне верили колхозники. Но суды над Леоновым и Старовойтовым четко показали: не даст власть крестьянину почувствовать себя хозяином. Не даст – и все тут.

Леонов, сам прошедший через колхозную систему, хорошо представлял себе разницу между колхозом и совхозом. Разница была как раз в самоуправлении. Хозяин – тот, кто берет на себя ответственность, – то есть отвечает перед собственным коллективом. Это – коллективное хозяйство, колхоз. А совхоз – это когда ты перед «низами» ни за что не отвечаешь. Только перед вышестоящим начальством. Эту систему, собственно, и отреставрировал в масштабах всей страны бывший директор совхоза «Городец», растоптав то, что сделал Леонов. Заодно была растоптана и личная леоновская жизнь.

Реформы растоптать удалось. А Леонова как реформатора – нет. Крепкий мужик оказался. Так и ушел в иной мир – не сломанным.

Сейчас правительство предлагает пойти псевдолеоновским путем. Формально – тоже рыночным способом: вот тебе, мужик, морковка в виде 25 процентов акций, впрягайся.

Но мужика этого не крестьяне выбрали, а начальство назначило. Не хозяином он пришел, а просто новым приказчиком-временщиком, который надеется, что в лучшем случае продаст этот свой 25-процентный пай и смоется. А в худшем случае – что ж, у нас и герои труда по тюрьмам сидели…

И пришел он не на крепкое хозяйство, где сорока-пятидесятилетние работники – становой хребет. Пришел в деревню, в которой большинство – старики, а те, что не старики, те тихо спиваются. И пришел он на предприятие, где специалисты привыкли закапывать кредитные деньги в землю, зная, что власть, сука, – она же добрая, она же все спишет…

Ниоткуда пришел. В никуда пришел. Есть, конечно, и некоторые исключения, – но не они сегодня погоду в нашем сельском хозяйстве делают. Делали бы они погоду – власть бы о реформах не задумывалась, даже задницу от дивана не оторвала бы, чтобы почесать.

Не леоновский это подход.

Но я представляю себе гневный взгляд читателя:

– А вы, господин Федута, программу эту самую видели? В руках держали? Так о чем говорите?

Не видел. Не держал. Но 25 лет ушло, и за это время ни одна правительственная программа, вписывающаяся в прокрустово ложе командно-административной системы, в Беларуси реализована не была.

И если я на этот раз вдруг ошибаюсь, то это уже полностью укладывается в пословицу: не было бы счастья, да несчастье помогло. Значит, добили таки деревню до ручки, даже шефство над убыточными вдрызг хозяйствами со стороны банков и олигархических фирм не оправдалось. Пришлось таки восстанавливать и аграрную демократию (относительно, но все же), и браться за леоновские реформы как за образец.

И это значит, что Леонов победил.

Только вот страна за столько лет – проиграла.

ДЗІКУНСТВА!

## «Толькі смяротнае пакаранне…»

*“Народная Воля” расшукала сяброўку жорстка забітай у Бабруйску Крысціны Аляксандравай.*

Днямі Беларусь ускалыхнула жудасная навіна: у Бабруйску жорстка забіты дзве маладыя дзяўчыны.

26-гадовая Крысціна Аляксандрава разам з сяброўкай адправілася ў мясцовую кавярню. Там сяброўкі пазнаёміліся з мужчынам, які прапанаваў працягнуць сумесны адпачынак. Утрох яны селі ў машыну таксі і паехалі дамоў да маладога чалавека.

Раніцай 20 ліпеня адна з дзяўчат набірала на сваім мабільным нумар 102. Зачыніўшыся ў ванным пакоі, дзяўчаты паведамілі супрацоўнікам МУС аб тым, што ім пагражае небяспека – невядомы, з якім яны з’ехалі з кавярні, спрабуе трапіць да іх у ванны пакой. Пасля сувязь з абанентам знікла.

На сённняшні дзень вядома, што міліцыянеры спазніліся і не здолелі выратаваць жыцці дзяўчат. Аказалася, што тэлефанаваўшая ў міліцыю дзяўчына няправільна назвала адрас кватэры, куды яны прыехалі з новым знаёмым.

Што ж адбылося ў кватэры? Вось што на гэты конт распавядае афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі Юлія Ганчарова.

– Устаноўлена, што 36-гадовы жыхар раённага цэнтра пазнаёміўся ў кавярні з дзвюма дзяўчынамі. У выніку пасля распівання спіртных напояў усе разам яны накіраваліся да яго ў кватэру, дзе ён пражываў. Праз некаторы час дзяўчаты былі знойдзены мёртвымі ў ванным пакоі з разнастайнымі цялеснымі пашкоджаннямі, у тым ліку колата-рэзанымі ранамі, а падазроны ў іх забойстве быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі ў нецвярозым стане. Следча-аператыўная група нашага ведамства, у тым ліку спецыялісты цэнтральнага апарата, а таксама перасовачная крыміналістычная лабараторыя цягам трох дзён працавалі на месцы здарэння, высвятлялі ўсе абставіны і праводзілі першапачатковыя следчыя дзеянні. Устаноўлена, што раней судзімы 36-гадовы жыхар Бабруйска здзейсніў гэтае злачынства, у якім падазраецца і дзеянні яго кваліфікуюцца па частцы 2 артыкула 139 Крымінальнага кодекса Беларусі “Забойства, здзейсненае пры абцяжарваючых абставінах, забойства дзвюх асоб”. Цяпер рыхтуюцца матэрыялы для прад’яўлення абвінавачання, праведзены следчыя дзеянні ў тым ліку з падазроным, ён дае паказанні, праведзена праверка паказанняў на месцы, дапытаны сведкі, прызначаны шэраг экспертных даследаванняў. Устанаўліваецца матыў здзяйснення гэтага жорсткага злачынства.

Каго ж падазраюць у гэтым зверскім злачынстве? Следчыя органы, як правіла, не называюць імя і прозвішча меркаванага забойцы, а вось самі бабруйчане, у асноўным карыстальнікі сацыяльных сетак, мяркуюць, што абвінавачанне можа быць прад’яўлена Аляксандру А.

На яго старонцы ў адной з сацыяльных сетак размешчаны фотаздымкі, зробленыя ў тым ліку і ў месцах пазбаўлення волі.

Крысціну Аляксандраву пахавалі ў панядзелак 23 ліпеня на могілках у 30 кіламетрах ад Бабруйска. Яе сястра, якую расшукала “Народная Воля”, не захацела распавядаць пра акалічнасці здарэння: “Прабачце, я не буду пра гэта гаварыць”, – сказала Ірына Ворахава.

А вось што ў размове з намі ўспамінае пра Крысціну яе аднагрупніца Екацярына Камінскас.

“Разам з Крысцінай мы вучыліся ў адной групе бабруйскага каледжа. Атрымлівалі спецыяльнасць «кравец-закройшчык». Крысціна была светлым чалавекам, добрым, старанна вучылася. Пасля заканчэння каледжа нашы шляхі разышліся, мы раз-пораз спісваліся ў сацыяльных сетках. Дарэчы, наколькі я ведаю, па атрыманай у каледжы прафесіі Крысціна не працавала…

Канечне, для мяне, як і для ўсіх, тое, што здарылася з Крысцінай, – трагедыя. Жудасная трагедыя. Спадзяюся, што забойца будзе пакараны. Якое пакаранне я б вынесла – за тое, што ён зрабіў – толькі смяротнае пакаранне”.

Дарэчы, санкцыя артыкула, па якім заведзена крымінальная справа, прадугледжвае зняволенне ад 8 да 25 гадоў, пажыццёвае зняволенне альбо смяротнае пакаранне.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ВІНШУЕМ!



## «Жыццё з ім – сапраўднае свята!..»

*Пару дзён таму 70-годдзе адзначыў мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята” **Анатоль Кашталапаў**.*

Праўда, дзень народзінаў беларускі творца святкаваў не на радзіме, а ў Пярмі, дзе ансамбль быў на гастролях. Мясцовыя чыноўнікі ад душы павіншавалі Анатоля Міхайлавіча з юбілеем. А ўчора мастацкага кіраўніка “Свята” віншавала кіраўніцтва філармоніі, калегі. Але ж асноўная афіцыйная ўрачыстасць адбудзецца ў верасні ў малой зале Белдзяржфілармоніі.

*“Канцэрта не будзе, але збяруцца прафсаюзы, калектывы і будуць яго віншаваць,* – распавяла “Народнай Волі” жонка Анатоля Кашталапава Ганна Міхайлаўна, пакуль муж праходзіў медыцынскі агляд у так званай лечкамісіі. – *Анатолю рэдка хто дае 70, ён вельмі рухавы. Але і мне таксама ўчора камплімент мытніца на мяжы зрабіла. Доўга разглядаючы мае дакументы, заўважыла: “Вы шыкоўна выглядаеце ў свае 56!”. Я аж рассмяялася! А Анатоль нават і не засяроджваецца на тым, што яму 70 стукнула!*

Ганна Міхайлаўна і Анатоль Міхайлавіч разам 28 гадоў. У абодвух гэта другі шлюб.

*“Я тры месяцы разам з першым мужам пражыла, гэта было няшчасце, а Анатоля сустрэла, калі ён ужо разведзены быў,* – распавядае жонка мастацкага кіраўніка “Свята”. – *Мы вельмі падыходзім адзін аднаму. Ён вельмі добры і спагадны, і я такая ж – апошнюю спадніцу аддам!”*

Ганна Кашталапава па адукацыі бухгалтар, усё жыццё была ў прафесіі. А апошнія чатыры гады яна працуе касцюмерам – разам з мужам.

*“Я страціла работу, і муж кажа: папрацуй крыху касцюмерам, каб не звар’яцела без справы,* – распавядае Ганна Міхайлаўна. – *Я думала, гэта на пару месяцаў, пакуль работу новую не знайду. Але затрымалася ўжо на чатыры гады. Спадзяюся, буду разам са сваім кашталапікам да апошніх сваіх дзён! Бо жыццё з ім – сапраўднае свята!..”*

**Марына КОКТЫШ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Доллар – он и в Африке доллар

Несмотря на недавно состоявшуюся встречу президентов России и США, противостояние двух стран нисколько не ослабевает. В американском сенате стартовал процесс подготовки новых санкций против России. На этом фоне курс российского рубля к доллару все чаще перепрыгивает через отметку в 63 единицы. Из российских активов выходят западные иностранные инвесторы. Нерезидентов разочаровали безликие итоги саммита Путина и Трампа. Они интенсивно избавляются от российского госдолга, распродавая облигации Министерства финансов РФ и другие ценные бумаги. Сразу после саммита зарубежные фонды вывели около 20 млн долларов акций российских компаний. Правительство США не рекомендует своему бизнесу участвовать в финансировании российского госдолга.

Тем же платит и российское правительство. Только за последние месяцы было распродано четыре пятых казначейских билетов Минфина США. За последние два месяца «слили» облигаций более чем на 80 млрд долларов. А ведь еще недавно Россия наряду с Китаем, Японией находилась в числе крупнейших держателей американских ценных бумаг, исправно получая по ним проценты. Путин, по сути, объявил войну американскому доллару, заявив, что необходимо максимально исключить его из международных расчетов и переходить в расчетах между государствами на национальные валюты. Здесь к месту заметить, почему же Россия на неоднократные предложения Беларуси оплачивать российские энергоносители российскими рублями всегда отвечала отказом? С одной стороны, Россия продолжает усиленными темпами наращивать золотую составляющую госрезервов в ущерб долларовой части. С другой – российский Минфин сегодня выступает крупным покупателем долларовой валюты на бирже, изымая ее из оборота.

Международное рейтинговое агентство Standard&Poor*s оценивает платежеспособность правительства РФ как заемщика на уровне «BBB-», или низшей ступени инвестиционной категории. Несмотря на низкую долю госдолга в ВВП и значительные золотовалютные резервы (около 500 млрд долларов), российская экономика расценивается международными финансовыми организациями как структурно ущербная, полностью зависимая от экспорта нефти и газа (до 45% валютной выручки), как весьма ограниченная в развитии из-за «доминирующей роли государства, неблагоприятного инвестиционного климата и неблагоприятной регуляторной среды», как констатируется в релизе S&P.

Правда, подобными характеристиками международные финансовые организации «награждают» и экономику Беларуси. Ну, с Россией все ясно. С тех пор как Запад применил к ней свои экономические, финансовые и секторальные санкции, идет неутихающая конфронтация между сторонами. Как финансово-экономическая, так и военно-политическая, на что российские власти списывают любые неурядицы в экономике.

В Беларуси, как известно, Нацбанк также проводит политику дедолларизации экономики. Уже давно отказано населению в возможности брать валютные кредиты. Практически запрещены внутри страны всякие валютные сделки среди населения и между предприятиями-резидентами. Правительство уходит от привязки к доллару при заключении долгосрочных договоров, различных норм, отдавая прерогативу белорусскому рублю. В принципе такая логика понятна. В экономике суверенного государства должна доминировать национальная денежная единица. И здесь у нас есть проблемы. В так называемой широкой денежной массе Беларуси, которая включает как белорусские рубли, так и валюты, как раз доминируют последние. В пересчете на рубли (по курсу) она на 1.07.2018 составила 39,15 миллиарда. А рублевая доля насчитывает 14,1 млрд, то есть 36%.

Большая часть банковских депозитов, которые держит население, представляют валютные сбережения. Нацбанк считает это неправильным и снизил на сегодня в среднем до 1% годовых депозитные проценты по валютным вкладам. Сделав практически эти валютные ресурсы для банков бесплатными. А надо ли бросаться в такие, на наш взгляд, крайности? Объем банковских депозитов в инвалюте предприятий и населения, как результат такой политики, за полугодие уменьшился на 6,9% – до 10,9 млрд долларов. Срочные депозиты в том числе сократились на 8,6% – до 8,34 миллиарда. Срочные валютные депозиты населения составили 6,25 млрд долларов и снизились за полгода на 6,6%. Уже многие месяцы население остается чистым продавцом валюты, поддерживая валютный рынок и свой уровень жизни. Но не весь отток валюты из банковской системы выплескивается в открытый рынок, часть его, ввиду низких, попросту символичных банковских валютных процентов, уходит, как в народе говорят, в банки «стеклянные», пополняя домашние сбережения и оставаясь немалое время вне хозяйственного оборота. По интуитивным экспертным прикидкам домашние сбережения могут по объемам соперничать с банковскими депозитами.

Остается задаться вопросом: не перегибает ли палку Нацбанк в борьбе за дедолларизацию экономики? Ведь большая часть банковских кредитов выдается предприятиям именно в валюте. Потому что им нужны современные технологии, которые можно приобрести именно за валюту, нужны современные материалы и т.д. В конце концов подавляющая часть государственного внешнего и внутреннего долга у нас представлена в той же валюте. В этом году Беларуси необходимо выплатить только по внешним долгам 3,7 млрд долларов.

Желает ли того или не желает путинская Россия, но американский доллар был, есть и будет мировой валютой номер один. Именно в «зеленых» представлена в основном валютная составляющая резервов всех стран. И бороться с долларом России, ВВП которой составляет 7,8% американского ВВП, это укус комара слону. Здесь серьезные аргументы мог бы предъявить Китай – крупнейший покупатель американских казначейских билетов. Тем более сейчас, когда, благодаря ретивости Трампа, разворачивается большая торговая война между Поднебесной и США. Но хитрые китайцы вряд ли начнут «сливать» американские облигации. Слишком в мире все взаимозависимо. Стоит ли бороться с ветряными мельницами? Ведь доллар – он и в Африке доллар…

ПАРАЗВАЖАЕМ...

# Колькі трэба працаваць, каб акупіць навучанне ў беларускіх ВНУ?

Некаторыя беларускія ВНУ апублікавалі новыя цэны на платнае навучанне ў 2018–2019 гадах. Яны вышэйшыя, чым леташнія. Так, у БДУ, у Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце цэны павысіліся ў сярэднім на 10%.

«У сувязі з павелічэннем памеру тарыфнай стаўкі 1-га разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і на падставе праведзеных падлікаў», – такім чынам тлумачаць ВНУ падвышэнне цэн.



Найдаражэйшыя спецыяльнасці ў беларускіх ВНУ – юрыспрудэнцыя, міжнародныя адносіны (3136 рублёў), IT-сфера (3020 рублёў), журналістыка (2978 рублёў), а таксама спецыяльнасць урач-стаматолаг (2827 рублёў).

Танней, чым у іншых ВНУ, каштуе адукацыя ў Беларускім аграрна-тэхнічным універсітэце – ад 1236 да 1723 рублёў, ва ўніверсітэце фізкультуры – 1930 рублёў.

Выгадней за ўсё вучыцца на праграміста: вярнуць укладзеныя ў навучанне грошы можна ўсяго за некалькі месяцаў. Настаўнікам, урачам, юрыстам для гэтага спатрэбіцца амаль 2 гады.

### Настаўнік гісторыі, выкладчык

Год таму навучанне на гістарычным факультэце БДУ каштавала 2250 рублёў, сёлета – 2475 рублёў.

Сярэдні заробак у сферы адукацыі ў маі быў 657 рублёў.

Аднак маладыя настаўнікі з усімі даплатамі зарабляюць не больш за 550 рублёў.

Такім чынам, каб акупілася навучанне, маладому настаўніку трэба працаваць 1 год і 10,5 месяца.

### Урач

Летась год навучання ў Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце каштаваў 2200 рублёў. Сёлета – 2420 рублёў (педыятр, урач) і 2827 рублёў (стаматолаг).

Сярэдні заробак доктара ў маі 2018 года – 731 рубель.

Такім чынам, працаваць, каб кампенсаваць затраты на навучанне, маладому ўрачу трэба 1 год і 7 месяцаў.

### Інжынер-будаўнік

Інжынераў-будаўнікоў рыхтуюць у БНТУ на спецыяльнасці «Грамадзянскае і прамысловае будаўніцтва". І летась, і сёлета кошт навучання – 2660 рублёў (прынамсі, на 18 ліпеня на афіцыйным сайце былі пазначаны цэны на мінулы, 2017/2018 навучальны год).

Сярэдні заробак у сферы будаўніцтва – 868 рублёў. Адпрацоўваць свае навучанне будаўніку давядзецца 1 год і 3,5 месяца.

### Архітэктар

І летась, і сёлета на сайце БНТУ пазначаны аднолькавы кошт навучання на архітэктурным факультэце БНТУ – 2797 рублёў.

Сярэдні заробак у сферы архітэктуры, паводле паведамлення Белстата, – 1098 рублёў.

Таму адпрацоўваць свае навучанне маладому спецыялісту давядзецца 1 год і 1 месяц.

### Шахцёр

І летась, і сёлета кошт навучання па такой спецыяльнасці ў БНТУ складае 2640 рублёў.

Сярэдні заробак у горназдабываючай галіне – адзін з самых высокіх у краіне: у маі 2018 года ён складаў 1491 рубель.

Такім чынам, адпрацоўваць сваю адукацыю маладому спецыялісту давядзецца толькі 9 месяцаў.

### Юрыст

Летась навучанне на юрыдычным факультэце БДУ каштавала 2851 рубель, сёлета – 3136 рублёў (на 285 рублёў больш, ці на 10,9%).

Сярэдні заробак у сферы юрыспрудэнцыі цяжка вызначыць. Напрыклад, каб працаваць суддзёй ці пракурорам, дзе заробкі даволі высокія, трэба мець стаж не меншы за 5 гадоў.

У раздзеле «Праца ў сферы юрыспрудэнцыі ў Мінску» юрыстам без досведу працы прапануюць заробак ад 400–600 рублёў.

Калі ўзяць заробак 600 рублёў, то, каб кампенсаваць выдаткі на вышэйшую юрыдычную адукацыю, маладому спецыялісту давядзецца працаваць 2 гады і 2 месяцы.

### Праграміст

Год навучання на самых папулярных спецыяльнасцях у БДУІР сёлета каштуе 3020 рублёў (летась – 2750 рублёў).

І хоць сярэдні заробак у IT-сферы 3627 рублёў, аднак пачаткоўцы стартуюць, як правіла, з 1000–1400 рублёў.

Калі лічыць паводле сярэдняга заробку ў галіне, то праграмісту кампенсаваць свае навучанне можна за 4 месяцы працы.

Іна СТУДЗІНСКАЯ.
*(Радыё Свабода.)*

РЕБУС

# До Германии нам еще очень далеко!

*На днях многие российские средства массовой информации распространили новость о том, что белорусы стали получать больше россиян в реальном выражении, что на их зарплатах пагубно отразилась девальвация рубля.*

*Как относиться к этой информации, стоит ли ей доверять?*

*Этот вопрос «Народная Воля» обсудила с профессором экономики* ***Михаилом КОВАЛЕВЫМ.***

«Эксперты Института социальной политики Высшей школы экономики подготовили исследование «Межстрановые сопоставления заработных плат в 2011–2017 годах», которое показывает, что реальные зарплаты белорусов в пересчете на покупательную способность превысили зарплаты россиян, – сообщила газета «Московский комсомолец». – Беларусь стала единственной страной СНГ, которая обогнала Россию. Средняя зарплата в Беларуси по паритету покупательной способности (ППС) достигла в прошлом году 1648 долларов, а в России осталась на уровне 1640 долларов. Резкий скачок произошел в 2014 году. Если годом ранее Россия обгоняла Беларусь на 338 долларов, то в 2014-м разрыв сократился до 95. А по итогам 2015 года Беларусь уже вырвалась вперед. Напомним, что в России в это время произошло обрушение рубля, связанное с экономическим кризисом и введенными западными санкциями».

Сильно Россия стала уступать в показателях оплаты труда по паритету покупательной способности и странам Восточной Европы. Так, в Польше этот показатель равен 2343 долларам, в Чехии – 2026, в Венгрии – 2107 долларам.

– Исследование Высшей школы экономики было начато и длилось довольно давно, паритетный курс взят 2011 года, и точность этих расчетов не очень высока, – *объясняет Михаил Михайлович Ковалев.* – К тому же в паритетном курсе, который переводит белорусские зарплаты в доллары, значительное место занимают сигареты, транспорт, оплата коммунальных услуг. Ясное дело, что они в Беларуси невысокие. И когда все это переводят в американские цены, зарплата в Беларуси получается, по мнению экспертов Высшей школы экономики, 1600 долларов вместо неполных 500. И в итоге у них получилось, что мы даже обошли Россию и практически сравнялись с нашими соседями – Польшей и Литвой. А если еще к тому же учесть, что поляки и литовцы сами платят взносы в страховые и пенсионные фонды, то получится, что белорусы живут лучше и тех, и других. Да, по субъективным ощущениям, наверное, это близко к истине. Однозначно могу заявить, что белорусы живут лучше любого среднего россиянина, не проживающего в Москве. Многие россияне вообще считают, что в Беларуси весьма комфортная и безопасная жизнь. Сегодня участились случаи, когда российские программисты переезжают работать в белорусский Парк высоких технологий.

Но сравнивать одних небогатых с другими небогатыми, манипулируя не совсем подходящими для нас схемами, – дело нехитрое. Куда интереснее сравнить Беларусь, например, с Германией – что по паритету, то не по паритету покупательской способности, мы очень далеко находимся от немцев. Поэтому расслабляться не стоит, несмотря на завораживающие сообщения известного российского экономического вуза…

Марина КОКТЫШ.

ЗА РУЛЕМ

# Кредиты на Geely можно взять почти при любой зарплате

БПС-Сбербанк смягчил требования к доходам получателей кредитов на покупку автомобилей Geely. Кредиты на Geely сейчас смогут привлечь и те, у кого задолженность по действующим займам превышает 40% от суммы ежемесячного дохода. Кроме того, банк предоставил возможность учитывать совокупный доход членов семьи: при определении максимальной суммы кредита могут быть приняты во внимание доходы близких родственников. Так что купить Geely в кредит теперь можно практически при любой зарплате.




*«Кредиты на покупку автомобиля Geely стали доступны еще большему числу белорусов. Этот шаг создаст дополнительный спрос на белорусско-китайские автомобили, интерес к которым заметно вырос по мере реализации партнерской программы кредитования. На текущий момент БПС-Сбербанк предоставил уже 9,2 млн рублей заемных средств на покупку автомобилей Geely»*, – отметила исполнительный директор БПС-Сбербанка Елена Демиденко.

По данным БПС-Сбербанка, средняя стоимость приобретаемого автомобиля составляет 42,8 тыс. рублей. Как правило, 40% от суммы покупатели вносят сами, а оставшиеся средства берут у банка. Первые 3 года новые владельцы Geely могут пользоваться кредитом по сниженной ставке (1,9% годовых). Правда, при условии, что минимум четверть стоимости машины будет оплачена покупателем. В этом случае ежемесячный платеж составит около 336 рублей. Банк также готов покрыть до 90% стоимости автомобиля, но тогда льготная ставка действует 2 года. Кредит выдают максимум на 7 лет, а после льготного периода процентная ставка будет установлена на уровне ставки рефинансирования Нацбанка плюс 2,5 п.п. Погасить кредит можно досрочно без дополнительных платежей.

ТИХАЯ ОХОТА

Татьяна ПРОТЬКО:

# «Не в Америке растут такие грибы!»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

– Я думала, что такие огромные грибы растут только в Чернобыльской зоне, – *говорит Татьяна Сергеевна.* – Но эти грибы выросли не в Чернобыле, и не в Америке, а в наших лесах, недалеко от столичного аэропорта. От моего дома – это примерно пять километров. Сейчас погода – самая грибная, парная, влажная. Наши деревенские люди пошли в лес – понаходили много маленьких. А эти огромные – они просто быстро выросли. Мы поехали с мужем в лес в разведку около семи часов вечера – просто в разведку, посмотреть на свои грибницы. Но на наших старых местах ничего не было. Зато на новых местах выросли вот такие красавцы! Причем не червивые, чистенькие!

**– А что вы с ними делаете? Жарите, сушите?**

– Первые грибы я всегда жарю. Причем не отвариваю, как обычно делают. Почищу, помою, если надо – ошпарю кипятком и сразу на сковородку, с маслицем.

**– Вы часто за грибами ходите?**

– Да, я грибник. И люблю это дело. В Беларуси много грибов, которые по вкусу еще лучше, чем эти белые. Но люди их просто не берут, потому что просто не знают, что они съедобные. И наши микологи – те, кто профессионально занимается грибами, никакой разъяснительной работы с населением почему-то не проводят. А следовало бы! В последнее время никакой информации по грибам нет, нет новых изданий. Может, поэтому люди и травятся грибами, собирая неизвестно что и предполагая, что это сыроежки. А съедобные грибы, полезные, обходят стороной.

Грибы в белорусском рационе всегда занимали одно из центральных мест. Это традиционная белорусская еда. И надо, чтобы ученые проводили больше разъяснительной работы с людьми, чтобы регулярно рассказывали людям о грибах, особенно в сезон.

Некоторые грибы, которые нам попались, не летние, а осенние! В этом году вообще все как-то очень рано в природе происходит. А может, это значит, что ранние морозы будут?..

**– Вы только белые собирали?**

– Я беру все грибы. Была женька лисичек, валуи (они очень вкусные соленые, я уже пол-литровую баночку засолила), сыроежки, пантерные мухоморы…

**– Мухоморы?!**



– Да, розовые мухоморы – одни из самых вкусных белорусских грибов, есть во всех грибных атласах. Но их мало кто берет, потому что думают – несъедобные. А они очень вкусные, сладкие! Похожи немного на шампиньоны. Но кто не знает, тот, конечно, пусть не берет.

**– А как вы их готовите?**

– На мой взгляд, они вкуснее всего жареные.

**– Вы никогда грибами не травились?**

– Тьфу-тьфу! Я всегда готовлю все грибы по отдельности. Рассортировала, отварила и дальше уже готовь, как хочешь. Тогда гарантия, что никаких отравлений не будет, очень высокая. Потому что когда сортируешь грибы, тогда и поганки видны – они отличаются от сыроежек…

**– Удачной вам грибной охоты в этом сезоне!**

– Спасибо! Я помню, в детстве однажды нашла такой огромный гриб, как на фото. И то приятное ощущение сейчас ко мне вернулось…

Марина КОКТЫШ.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
24 ЛІПЕНЯ 2018 г.

СЛЫШАЛИ?

# В Италии нашли похищенные картины Ренуара и Рубенса стоимостью 26 миллионов евро

Об этом сообщает Associated Press.

Следователи утверждают, что работы похитили у артдилеров воры, которые выдавали себя за покупателей.

Похитители подписали фальшивый контракт на 26 млн евро (около 30 млн долларов), а когда торговцы отвлеклись, преступники выхватили картины и скрылись.

Полиция нашла похищенные произведения искусства на складе в итальянском Турине. В деле есть восемь подозреваемых: четырех итальянцев и хорвата в прошлом месяце арестовали.




ИХ НРАВЫ

## Сексуальная революция на Кубе

На Острове Свободы в законодательном порядке могут признать однополые браки. В новом проекте Конституции брак определяется как "союз между двумя людьми", их пол не указывается. Представляя депутатам проект, секретарь Госсовета Кубы Омеро Акоста отметил, что гей-браки легализованы в многих странах Латинской Америки – в Аргентине, Бразилии, Колумбии, Уругвае и некоторых штатах Мексики.

Ожидается, что после одобрения проекта депутатами он будет вынесен на всеобщий референдум. Самым ярым защитником прав сексуальных меньшинств на Кубе стала дочь бывшего кубинского лидера Рауля Кастро Мариэла. Она является депутатом парламента, а также директором Национального центра сексуального воспитания. Благодаря ее усилиям кубинские власти в 2008 году официально разрешили операции по смене пола.

ПУЛЬС

## Вслед за Евросоюзом

Черногория, Албания, Норвегия, Украина и Грузия продлили санкции, введенные в связи с аннексией Крыма и Севастополя. Таким образом, они присоединились к решению стран Евросоюза.

Речь идет об ограничениях, которые касаются только территории Крыма и Севастополя. Они предполагают запрет на импорт товаров из этого региона и экспорт туда определенной продукции и технологий в транспортной, телекоммуникационной и энергетической сферах. Кроме того, физические и юридические лица, зарегистрированные в странах, которые присоединились к санкциям, не имеют права инвестировать в Крыму и Севастополе.

## В Турции прекращен режим чрезвычайного положения



Окончание режима ЧП произошло менее чем через месяц после переизбрания президента Реджепа Тайипа Эрдогана на новый срок, которое формально завершило переход Турции к президентской форме правления.

ЧП было введено в стране после неудачной попытки госпереворота летом 2016 года. С тех пор он продлевался семь раз. За время действия режима ЧП были арестованы и задержаны более 230 тысяч человек по подозрению к причастности к госперевороту, уволены более 120 тысяч госслужащих, а также закрыты более 150 СМИ, более 1400 НКО и 15 университетов.

## Венгрия вышла из соглашения ООН по миграции

Это соглашение «опасно для Венгрии и всего мира», и оно «вдохновит миллионы людей для того, чтобы собраться в путь», заявил министр иностранных дел Венгрии Петер Сийярто.

Венгрия стала второй страной после США, которая вышла из этого соглашения. США это сделало в конце 2017 года.

Напомним, ранее премьер-министр страны Виктор Орбан заявил, что его правительство будет выступать против усилий ЕС и ООН по расширению миграции по всему миру, поскольку «ислам скоро постучится в двери Центральной Европы».

С МИРУ ПО НИТКЕ

## В Мюнхене против «политики страха»

*На улицах Мюнхена в воскресенье, 22 июля, массово протестовали против «политики страха» и популизма, которые, на мнению демонстрантов, проявляются в политике в отношении беженцев руководящей в Баварии партии Христианско-социальный союз (ХСС).*

По данным полиции, в акции приняли участие 25 тысяч человек. Организаторы заявляют о вдвое большем количестве, сообщает DW.

Несмотря на ливень, участники устроили шествие по центру города. Люди держали в руках плакаты с надписями «Кружка пива вместо ненависти!», «ХСС и АдГ (правопопулистская партия «Альтернатива для Германии». – **Ред.**) – оба вредят свободе» и другие.

Организаторы акции считают, что ведущие немецкие партии, прежде всего ХСС, все больше позволяют формировать повестку дня «недемократическим, враждебным к правам человека и правым популистам» вроде АдГ.

Задачей политиков является «оздоравливать и объединять общество, а не раскалывать его», цитирует координатора акции Томаса Лехнера газета Süddeutsche Zeitung.




Протесты поддержали около 150 организаций. Среди них местные ячейки Социал-демократической, Левой и других партий, профсоюз ver.di, организации помощи беженцам и даже два мюнхенских театра, передают местные СМИ.

СІТУАЦЫЯ

# Юрый Рубцоў не хоча вяртацца ў Беларусь

*Апеляцыя палітуцекача з Гомеля будзе разгледжана ў Германіі ў верасні.*

Нагадаем, што **Юрый Рубцоў** стаў вядомы як "чалавек-майка". На вулічныя акцыі апазіцыі ў Мінску ён выходзіў у майцы з палітычнымі надпісамі. Самым вядомым стаў лозунг "Лукашэнка, сыходзь!". У кастрычніку 2014 года Рубцова асудзілі на два з паловай гады абмежавання волі ў папраўчай ўстанове адкрытага тыпу, абвінаваціўшы ў абразе суддзі. На "хіміі" Рубцоў адмаўляўся працаваць, патрабуючы годны заробак, і трымаў галадоўку. Ён зрабіў сабе на грудзях тату "Лукашэнка, сыходзь".

28 мая 2015 года суд прыгаварыў Рубцова да двух гадоў калоніі агульнага рэжыму. Але 22 жніўня яго ў ліку іншых палітвязняў памілаваў сваім указам Аляксандр Лукашэнка.

Пасля гэтага Юрый Рубцоў папрасіў палітычны прытулак у Германіі, рашэння давялося чакаць каля года. Яно аказалася не на карысць былога беларускага палітвязня, але ён вырашыў падаць апеляцыю на адмову.

"*Стала вядома, што суд па разглядзе маёй апеляцыі адбудзецца ў верасні гэтага года*, – кажа **Юрый Рубцоў**. – *Праўда, дакладная дата пачатку працэсу не вядома. Ды, шчыра кажучы, я гэтым асабліва і не цікаўлюся. Справай займаюцца адвакаты, яны лепш ведаюць усе юрыдычныя нюансы. А я наўрад ці змагу на нешта паўплываць у гэтай сітуацыі. Таму, якое будзе рашэнне, такім яго і прыму. Калі ўсё-такі будзе вырашана адмовіць у прадастаўленні палітычнага прытулку, то буду пісьмова прасіць нямецкія ўлады адправіць мяне ў Канаду альбо ЗША*".

Зараз беларус жыве ў нямецкім Нюрнбергу, дзе і чакае канчатковага рашэння суда.

"*Апошнім часам працаваў памочнікам дамашняга майстра ў інтэрнаце, у якім жыву*, – дадае суразмоўца. – *Вялікіх матэрыяльных цяжкасцяў у мяне няма. Дапамога – 315 еўра і ў дадатак – заробак, хаця ён і не вельмі вялікі. Я не з'яўляюся грамадзянінам Германіі, таму больш за 70 еўра ў месяц не заробіш*".

**Віктар ШПАК.**

ПОЗИЦИЯ

## В Армении будут убирать избирательные участки из школ

В одном из недавних номеров «Народной Воли» была напечатана статья жителя деревни Семково Минского района Геннадия Зиновчика под названием **«Оградите учителей от грязных политических игр!»**. Автор, кажется, попал в точку. Об этом свидетельствует и информация, которая дошла до нас из Армении, с которой Беларусь поддерживает дружественные отношения. Министр образования и науки этой страны также считает, что участие учителей в фальсификации выборов – это не просто уголовное преступление, а общенациональная беда. В детализированном виде его позиция такова.

***

Школы должны быть полностью деполитизированными. Для этого необходимо перестать использовать их помещения для размещения избирательных участков, а учителей – не привлекать для работы в избирательных комиссиях. Причина – участие работников образования в фальсификации выборов.

Об этом заявил министр образования и науки Армении Араик Арутюнян.



«Одним из главных наших приоритетов является деполитизация школы. Большинство директоров школ и ректоров университетов представляли правящую партию, и это давало предыдущему правительству возможность злоупотреблять этими ресурсами, обеспечивать себя голосами во время выборов. Я неоднократно принимал участие в выборах в качестве наблюдателя. И каждый раз у меня был большой стресс после того, как я замечал, как некоторые учителя, задействованные в организации выборов, фальсифицировали выборы или закрывали глаза на фальсификации. Пусть и не по собственной инициативе, а под угрозой потерять работу, но... А на следующий день после выборов шли в классы и работали с учениками, «воспитывали» новое поколение Армении», – говорит Арутюнян.

Правда, замечает министр, власти Армении неожиданно столкнулись с тем, что нет достаточного количества административных зданий, пригодных для размещения избирательных участков. А на то, чтобы арендовать помещения у частных владельцев, у государства пока нет денег. Но вопрос этот обязательно будет решен до ближайших выборов, которые пройдут в Армении следующей весной.

(«Еврорадио».)

ЭКСПЕРТИЗА

## Министры финансов G20 назвали главные риски для мировой экономики

*По мнению «двадцатки», мировая экономика продолжает расти, но развивающиеся страны борются с волатильностью рынков и оттоком капиталов.*

Основные краткосрочные и среднесрочные риски мировой экономики в настоящий момент – растущая финансовая уязвимость, рост напряженности в торговле и геополитике, а также неравенство и слабый структурный рост. Об этом говорится в коммюнике по итогам заседания министров финансов и глав центральных банков G20 в Буэнос-Айресе.

По мнению «двадцатки», мировая экономика продолжает расти, но развивающиеся страны борются с волатильностью рынков и оттоком капиталов. В то же время отмечается устойчивость глобального экономического роста и самые низкие за последние десять лет уровни безработицы.

В документе говорится, что многие развивающиеся экономики сейчас лучше подготовлены к изменяющимся внешним условиям. Стороны договорились продолжать мониторить риски и предпринимать действия, если они материализуются.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ




## Жыцень

Калі закончылася жніво і ўсе снапы былі звезены ў гумно, дзеці пабеглі на пустое поле. Якое ж было іхняе здзіўленне, калі ўбачылі на ржышчы некалькі снапоў. Пра сваю знаходку расказалі бацьку. А той радасна патлумачыў ім, што гэта Жыцень такім чынам адзначыў іхнюю працавітасць ды ўвішнасць.

– А што гэта за чараўнік такі шчодры? – спыталіся дзеці.

– Гэта не чараўнік. Гэта дабрадзейны бог, – адказаў тата і расказаў ім такую гісторыю.

У самай даўняй даўніне, калі яшчэ не было на беларускіх землях хрысціянства, нашы прашчуры верылі ў магічную сілу агню, ветру, сонца, пакланяліся дрэвам і святым камяням. Калі ж сказаць коратка – жылі ў добрым суладдзі з прыродай, бо ад яе залежаў іхні лёс, з літасці нябачных прыродных сіл мелі яны багацце, здароўе, дабрабыт і ўсё, што патрабавалася для жыцця.

На кожную пару года даўнія людзі мелі сваіх багоў. Калі наступала вясна, на зямлю прыходзіла маладзенькая прыгажуня Ляля, альбо Лёля.

На змену ёй з'яўлялася багіня лета Цёця – мажная і дзябёлая кабета, убраная каласамі. Марознай зімой панаваў бог холаду Зюзя.

У пладавітай і шчодрай восені таксама быў свой бог. Называўся ён Жыцень, лічыўся богам жніва.

Мо ад слова «жыць» паходзіла ягоная назва? Бо менавіта ён спрыяў сялянам назапашваць хлеб – незаменны атрыбут бязбеднага жыцця. Паданні засведчылі, што Жыцень быў худзенькім дзядком малога расточку. Меў суровы выраз твару. На галаве – доўгія раскудлачаныя валасы. Загадкай заставалася, чаму ў гэтага бога ажно тры вокі на лбе. Праўда, у легендах захаваліся сведчанні, што трэцяе вока знаходзілася часам на патыліцы. Відаць, каб пільна сачыць за тым, як людзі спраўляюцца з ураджаем, якім дагэтуль апекаваліся іншыя багі.

Багіня вясны Ляля спрыяла ўсім земляробчым працам на полі. Пярун паліваў ніўку дабрадзейным дажджом, які людзі называлі божай расой. Бог урадлівасці і сонечнага святла Дажбог не даваў пасеяным зернейкам спрахнуць у цёмнай зямлі. Адным словам, кожны з добрых і спагадлівых язычніцкіх багоў дбайна выконваў свае абавязкі, каб не страціла зямля сваёй пладавітасці, каб не надта пакутаваў чалавек ад розных бед ды нягод, каб не халадаў і не галадаў.

Калі сваю справу заканчвалі ўсе іншыя багі, наступаў час Жыценя. Нізка сагнуўшыся, хадзіў ён па палях, зазіраў на агароды. Цікавіўся, ці няма дзе-небудзь нядбальства, ці годна пакарысталіся сяляне спрыяннем усіх іншых багоў і добрых духаў. Радаваўся, калі бачыў парадак ды багаты вынік сапраўднай гаспадарскай рупнасці. Але і суровасць сваю праяўляў напоўніцу. Карацей, судзіў суд над нядбайнымі, заахвочваў і дадаваў багацця руплівым.

Бывала, заўважыць на ржышчы нязжатыя альбо апалыя каласкі, ажно скаланецца ўвесь, вочы слязамі зойдуцца, валасы на галаве натапырацца. Крыўда бярэ руплівага бога, сэрца заходзіцца ад жалю. Збярэ ён усе каласкі, складзе адзін да аднаго і ў снапы пазвязвае. А тады прабяжыць па ўсіх суседскіх палетках, каб знайсці самы дагледжаны, і давай снапы на зжатае поле насіць. Каб дагадзіць руплівому гаспадару, падахвоціць яго працаваць яшчэ лепш. Парадуецца тады селянін і скажа сваім аднасямейнікам:

– Гэта Жыцень нам даў, каб будучым годам яшчэ лепш шчыравалі.

Аднак на гэтым не заканчваецца суд Жыценя над марнатраўствам. Мала таго, што адбярэ частку ўраджаю ў нядбаліцы, калі аднясе збажыну іншаму, дык і на будучыню пакарае. Зробіць так, каб у негаспадарлівага хлебароба на наступны год не ўрадзіла ніўка.

А вось руплівы ды стаpанны, працалюбівы і акуратны – той, каму Жыцень восенню снапы зносіў, збярэ яшчэ большы ўраджай, шмат жыта з пшаніцай намалоціць. А ў каго багаты ўраджай, у таго і дастатак у хаце. Пра такога кажуць, што ад яго пахне ветрам і дажджом, а ад рук – зямліцай ды збожжам. Такім вось чынам бог восені Жыцень заахвочвае быць на зямлі сапраўдным гаспадаром, карае тых, хто не прытрымліваецца гэтага.

Мае Жыцень і іншы клопат. Часам ператворыцца ў беднага жабрака. Перакіне праз плячо кайстру і выйдзе на дарогу. Сустрэне там мужыка і паківае яму пальцам, нібыта дакарае за нешта. А селянін, вядома, пазнае Жыценя і раскажа ў вёсцы пра сваю сустрэчу. Бядуюць тады сяляне: гэта ж Жыцень пагражае бедным ураджаем. Нашы продкі казалі: «Жыцень з торбай – голад на двор». Гэткім чынам Жыцень папярэджвае гаспадара аб маючым быць голадзе, падказвае, каб не дапусціў да гэтага.

Сваю дбайнасць і гаспадарлівасць, любасць да карміцелькі-зямліцы выяўляе Жыцень і падчас асенняй сяўбы. Калі сеюць азімыя, Жыцень тут як тут. Але не хоча паказвацца на вочы, сваю добрую справу таемна робіць. Калі здарыцца, што нейкае зернейка не прысыпана зямлёй, абавязкова прытопча яго, каб не прапала, каб аддзячыла важкім коласам. Там раллю параўняе, там баразну паправіць. Гаспадар, адным словам.

Восенню людзі падсумоўвалі вынікі сваёй земляробчай працы. 21 верасня ладзілі свята ўраджаю – Багач, альбо Багатуху. Насыпалі зерне новага ўраджаю ў кош ці сявеньку, ставілі туды свечку і з дажынкавымі песнямі абносілі гумны, двары. Але не толькі цешыліся сабранаму ўраджаю, а дбалі пра будучы. Трэба было паспець поле заараць, пасеяць азімую збажыну. Таму сяляне і казалі: «Прыйшоў Багач – кідай рагач, бяры сявеньку ды сей памаленьку».

А праз тры тыдні пасля Пакроваў адзначаюцца Асяніны, альбо Вялікія дзяды, Змітраўскія дзяды – дзень памінання продкаў. Паколькі яны адбываліся пасля заканчэння палявых работ, калі ўраджай ужо ў свірне, то і абрадавы стол быў багаты. Казалі: «На Дзяды шмат яды». І сапраўды, гаспадыні гатавалі ажно да 19 страў. Здаўна павялася звычка ўспамінаць у гэты вечар продкаў, адчуваць яднанне з імі, згадваць іхняе жыццё, ухваляць працавітасць, ставіць у прыклад іхняе дбайнае гаспадаранне на зямлі – каб нашчадкі сталі спадкаемцамі і прадаўжальнікамі добрых спраў. Каб не перапынялася повязь пакаленняў і не забываліся людзі пра свайго спрыяльніка Жыценя.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–57.)*

## Магільнае заліваецца слязамі

Калі ў толькі што вызваленым ад акупантаў Магільным бралі мужчын на фронт, бадай, не было праліта аніводнай слязінкі, паколькі людзі верылі ў лёгкую і хуткую перамогу над ворагам. З асаблівай радасцю пакідала родны дом моладзь. А як ёй зайздросцілі хлопцы 1927 года нараджэння, на якіх якраз спынілася мабілізацыя ў войска! Я не раз напаўжартачкі пытаўся ў мамы:

– Чаму вы ў 1927 годзе выпрасілі ў бусла дачку Ліду, а не сына Лёню?

Не мінула і месяца пасля сустрэчы магілян з чырвонаармейцамі, як у мястэчка сталі прыходзіць весткі пра гібель каго-небудзь з яго жыхароў.

– Што ж гэта такое?! – абураліся ўдзельнікі Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. – Выходзіць, нашых сыноў і месяц не павучылі, як трэба ваяваць з ворагам. Вунь як нас муштравалі ў царскай арміі да таго, як пасляць у бой.

Вялікай памылкай было залічэнне ў адно баявое падраздзяленне мужчын з адной і той жа мясцовасці, бо ў выпадку няўдалых баёў вёска ці мястэчка маглі страціць, бадай, усіх сваіх мужчын. Блізняты Алёшка і Мішка Барысевічы з Магільнага служылі ў адным аддзяленні і загінулі з розніцай у дзве хвіліны.

Наша мястэчка ператварылася ў нейкую калектыўную аплаквальню. У некаторых хатах у той пякельны месяц аплаквалі па некалькі чалавек. Акрамя згаданых вышэй Алёшкі і Мішкі Барысевічаў з поля бою не вярнуліся родныя браты Валодзя, Ванька і Сярожа Матусевічы, Жэня і Нінел (штучна прыдуманае яго бацькам – партызанам грамадзянскай вайны Цімохам – імя: "Ленін" наадварот) Туміловічы.

Лілі магіляне слёзы і ў полі падчас жніва. Варта было толькі каму-небудзь з жанчын загаласіць, як лямант тут жа падхоплівалі іншыя. Не магла ўстрымацца ад слёз і наша мама, бо пасля вызвалення ад акупантаў не прыйшло ніводнай звесткі пра брата Івана, які пайшоў на фронт у першыя дні вайны. Як высветлілася пазней, ён загінуў на роднай зямлі падчас летняй наступальнай аперацыі "Баграціён" 1944 года.

Самым трагічным, самым цяжкім часам для магілян быў канец ліпеня – жнівень 1944 года. Цяпер, калі хлопцаў 1927 года нараджэння па розных прычынах выклікаў Вуздзенскі райваенкамат, ва ўсіх апускаліся галовы, а родныя са слязамі на вачах праводзілі сваіх сыноў у дарогу. І мне, ацалеўшаму ў акупацыю, натуральна, моцна хацелася жыць, калі прыйшоў канец гэтай навале.

## Усё для фронту, усё для перамогі над ворагам!

Я жыў і працаваў дзеля фронту. Здрадзіў яму толькі адзін раз, калі ў канцы лета 1944 года мяне ў сельсавеце ўгаворвалі ехаць працаваць на абарончыя заводы Урала, а я ўпіраўся. Супраць майго ад'езду на Урал выступала і мама. Не паехаў. А вось трое маіх аднагодкаў далі згоду, але праз паўгода паўцякалі з-за цяжкіх умоў працы, нізкіх заробкаў і іншых прычын.

Возячы сена з Магільнага на станцыю Койданава, у воз зверху ўтыкалі невялічкія транспаранты з надпісамі: "Усё для фронту!" ці "Усё для перамогі!". Пісалася толькі па-беларуску, бо тады наша мова абслугоўвала ўсе сферы грамадскага жыцця ў сельскай мясцовасці. Запомнілася патрыятычнае выступленне перад калгаснікамі маладога настаўніка Алёшы Дземідовіча. Затое, калі дзесьці ў сярэдзіне 1960-х гадоў я прыехаў у Магільнае ў адпачынак з рускамоўнага Мінска, дык Алёша Дземідовіч сумесна з настаўніцай гісторыі мясцовай школы Маінай Нячаевай у штыкі сустрэлі маё беларускамоўе, абгрунтоўваючы гэта тым, што ў СССР адбываецца заканамерны працэс збліжэння і зліцця культур і моў савецкіх народаў. Пасля развітання я ніяк не мог адысці ад думкі, у якіх ненадзейных руках знаходзіцца лёс магільнянскіх дзяцей.

Для дастаўкі сена ў Койданава брыгадзір калгаса выдзяляў самых здаровых коней. Але атрыманыя ў абмен ад чырвонаармейцаў жывёлы нярэдка падводзілі, бо былі загнаныя, надарваныя. Аднойчы і мне моцна не пашанцавала з такім канём. Адвезці сена ў Койданава ў яго хапіла сілы. Але калі позна ўвечары з пустым возам вяртаўся дамоў, конь раптам паваліўся на дарозе. Дзесьці праз паўгадзіны пасля таго здарэння пачуўся ляскат колаў па дарозе. Ехаў з нашай брыгады мой поўны цёзка – Лёня Лыч. На душы стала весялей, бо ён быў дужа кемлівы хлопец. Разам мы ўжо вызвалілі каня з аглабель. Ён нават зрабіў некалькі канвульсійных рухаў заднімі нагамі, але ўзняцца на ногі ў яго не ставала сілы. Мужчына сталага веку, які прыпыніўся каля нас, канстатаваў:

– Хлопцы! Капут вашаму каню. Пакідайце яго на дарозе, а заўтра хтосьці з негарэльцаў знойдзе яму месца.

Мы так і зрабілі. Мой воз прычапілі да воза гэтага мужчыны. Ехаць давялося вельмі павольна. На калгасным двары з'явіліся ў час, калі брыгадзір Васіль Лыч размяркоўваў хлопцаў на працу. Паслухаўшы наш аповед пра здарэнне, сказаў мне:

– Не хвалюйся, Лёня. За падзенне каня ніякай адказнасці не панясеш. Выберам іншага, больш надзейнага.

Хаця ў полі заставалася яшчэ штосьці нязжатым, не звезеным у гумны, людзі пачалі раіцца, як арганізаваць дажынкі. Гэтае свята было вельмі папулярным у даваенны час. Усе тры брыгады калгаса адзначалі яго, дзеля чаго кожнай з іх выдзялялася прасторнае гумно. На гэты раз у вялікім памяшканні патрэбы не было, бо арганізатары дажынак ведалі, што на свята не пойдуць тыя, у каго пазабіваны на фронце гаспадары, дзеці. Дажынкі адзначаліся ў хаце. Выдаткі на гэта ўзялі на сябе людзі, бо ў калгаса, акрамя коней, нічога не было са скаціны. Адзіным моцным піццём была самагонка, выробленая, як сцвярджалася, яшчэ да вызвалення Магільнага ад акупантаў. Падлеткаў майго ўзросту ў тую хату не пусцілі, але паабяцалі нешта арганізаваць, калі застолле закончаць дарослыя.

Чарка-другая самагонкі адыграла сваю ролю. На хвіліну забыўшыся пра вялікае гора з-за гібелі магілян, людзі сталі ўгаворваць брыгадзіра запрасіць на святочную вячэру гарманіста. І ён з'явіўся. Пачаліся танцы. Большасць жанчын танчылі адна з адной. Нам нельга было ўстрымацца, і мы кінуліся да вокнаў. Гралі вальс "Амурскія хвалі". На мае вочы адразу трапіла мама ў пары з брыгадзірам. Я ўпершыню ўбачыў, як мама танчыць. Круцілася вельмі лёгка, прыгожа адкінуўшы трохі назад галаву. На твары раз-пораз з'яўлялася ледзь прыкметная ўсмешка. Калі замоўк гармонік, мама, здавалася, без усялякай стомы накіравалася да свайго месца за сталом. Не абышлося ў той вечар і без полькі. Дажыншчыкі, сярод іх і мая мама, як мне падалося, надзвычай лёгка круціліся. Проста не верылася, што ўсё гэта адбываецца пасля цяжкага працоўнага дня.

Пад той час і ў многіх хлопцаў майго ўзросту, ужо не кажучы пра дзяўчат, былі пэўныя набыткі ў танцах. Месцам для танцаў служыў сутык вуліц Кавалёўскай і Нясвіжскай. Пад вечар яно ператваралася ў танцпляцоўку і так утрамбоўвалася нашымі босымі нагамі, што падчас танцаў нават пыл не ўзнімаўся. За якія-небудзь пяць метраў ад гэтага месца цёк у Нёман ручай, са смакам вады якога не можа параўнацца ніводная з сённяшніх марак пітной вады. Некаторыя вазакі нават свядома аб'язджалі гэтае месца, каб не псаваць нам "танцпляцоўку". Гэтак жа сама паводзілі сябе і пастухі, гонячы статак кароў на пашу ці з пашы. Танцы ладзіліся пад самымі вокнамі хаты дзядзькі Язэпа (па-вулічнаму Борбіны), і ён ні разочку не паспрабаваў забараніць нам весяліцца, прычым часта да поўначы.

Завадатарам тых вулічных танцаў быў мой аднагодак Паша Туміловіч. Як і ўсе мы, стомлены непасільнай для яго гадоў працай, ён амаль штовечар прыходзіў на "танцпляцоўку". Люба было назіраць, як ён танцуе вальс то з адной, то з другой партнёршай. Паша быў першым і ў працы. У 1960–1980-я гады ён лічыўся адным з перадавых механізатараў раёна. Меў шмат розных урадавых узнагарод. А вось пасля выхаду на пенсію доўга не давялося пажыць. Відаць, праз свае дыхальныя шляхі нямала прапусціў выхлапных газаў трактара і самаходнага камбайна.

Неяк так сталася ў тагачасным яшчэ ваенным жыцці, што наш калгас па забяспечанасці рабочымі рукамі, цяглавай сілай, сельскагаспадарчым інвентаром быў адным з самых моцных, прычым не толькі ў межах Вуздзенскага раёна. Пра гэта добра ведалі нават у Мінскай вобласці, таму створаную з хлопцаў нашага калгаса брыгаду паслалі ў канцы лета 1944 года ў некаторыя вёскі Капыльскага раёна. Сярод тых пасланцоў быў і Ігар Вус. Едучы на працу ў суседні раён, ён не забыўся ўзяць з сабой свой любімы музычны інструмент – мандаліну, на якой цудоўна іграў. Вечарам выходзіў на вуліцу з мандалінай у руках, каб весяліць мясцовую моладзь. Яна моцна палюбіла магільнянскага музыканта, і, калі ён ад'язджаў да хаты, наладзіла для яго запамінальныя праводзіны. Ігара Вуса, як выдатнага аратара, паслалі ў канцы 1944 года на злёт маладых перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Мясцовыя ўлады знайшлі "адпаведную" жаночаму полу працу для маёй 17-гадовай сястры Ліды, з тым каб і яна нешта карыснае магла рабіць дзеля перамогі над фашысцкай Германіяй, – валку стогадовых соснаў прыкладна за дзесяць кіламетраў ад Магільнага. Тады асноўнай прыладай працы на валцы лесу была звычайная піла з дзвюма ручкамі. Ліда і яе сяброўка паспяхова спраўляліся з заданнем, хаця не мелі на месцы працы нармальных жыллёвых умоў, дрэнна харчаваліся. Усе гэтыя недахопы асабліва даваліся ў знакі ў зімовы перыяд. І сёння стаіць уваччу, як я вязу з дому Лідзе абед, а яна, сагнуўшыся ў тры пагібелі, валіць з сяброўкай таўшчэзную хвою. Убачыўшы мяне, спынілі працу і адразу накінуліся на яду. Як мы дома з мамаю ні ўхутвалі ў ватоўку бульбу ў мундзірах, яна за дарогу з-за моцнага марозу стала зусім халоднай. Аднак гэта ніколькі не паўплывала на апетыт маладых дзяўчат-лесарубаў. Другая сястра, 14-гадовая Ада, з вялікай ахвотай займалася разам з сяброўкамі падборам і адпраўкай на фронт розных патрэбных салдату асабістых рэчаў. Не раз сельсавецкае начальства дзякавала маме за такія старанні яе дачкі.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

НЕЗАБЫВАЕМОЕ

# Отставка

*(Окончание. Начало на 3-й стр.)*

И хотелось бы еще раз вернуться к последним событиям, к заявлению Президиума Верховного Совета БССР. Не надо там искать чего-то плохого. Такие же заявления делали и другие республики, о которых я говорил. Сделано заявление суверенного Президиума, который сказал, что Конституция и законы действуют на территории Белорусской ССР, а какие-то временные положения, кем бы они ни были изданы, не действуют. В чем же виноваты те, кто подписался под этим заявлением? И тот, кто не подписался, пусть сейчас задним числом не слывет героем… Я прошу вас отпустить меня на пенсию. И на этой основе поставить вопрос на голосование.

С.С.Шушкевич (Одоевский избирательный округ №44, г.Минск). Уважаемые народные депутаты! Председатель Верховного Совета БССР Николай Иванович Дементей хочет покинуть свой пост и уйти на пенсию. Мы должны решить этот вопрос. Как мы будем голосовать? Тайно? С помощью электронной системы или с помощью бюллетеней?

Есть два предложения. Предложение первое – голосовать тайно с помощью электронной системы и предложение второе – голосовать тайно с помощью бюллетеней. Кто за то, чтобы голосовать тайно с помощью электронной системы, прошу голосовать.

Предложение голосовать тайно с помощью электронной системы.

Результаты голосования:
Кворум для голосования 232
Кворум для принятия решения 174
Зарегистрировано 268
Проголосовало «за» 224
Проголосовало «против» 6
Воздержалось 13
Всего проголосовало 243
Не голосовало 25
Решение принято.

Я думаю, что другое предложение нет смысла ставить на голосование.

Уважаемые народные депутаты! Кто за то, чтобы принять отставку и удовлетворить просьбу о выходе на пенсию народного депутата БССР, Председателя Верховного Совета БССР Дементея Николая Ивановича? Кто «за», прошу голосовать. Кто против? Кто воздержался?



Заседание 22-й Генеральной Ассамблеи ветеранов мира. А.Н.Новиков, Н.И. Дементей. Южная Корея. Сеул. 1997 г.

Результаты голосования:
Кворум для голосования – 232
Кворум для принятия решения 174
Зарегистрировано 268
Проголосовало «за» 232
Проголосовало «против» 12
Воздержалось 15
Всего проголосовало 259
Не голосовало 9
Решение принято.

Дементей Н.И. Я еще раз хочу сказать вам всем спасибо за совместную работу. *(Аплодисменты.)* Спасибо большое вам и спасибо большое нашим гражданам. На многих участках довелось мне работать. Хочу сказать, что меня больше окружало хороших людей, они меня поддерживали, учили. Я признателен своим учителям: таким, как Петр Миронович Машеров, Тихон Яковлевич Киселев, Кирилл Трофимович Мазуров и многие другие. Спасибо жителям Витебской области, спасибо жителям Гродненской области и спасибо Минску и Минской области, в которых меня знают по работе тоже. Спасибо вам большое.

Шушкевич С.С. Уважаемые народные депутаты! Позвольте мне как заместителю Председателя Верховного Совета сказать несколько слов. Год назад, немного даже больше, я долго думал над тем, согласиться ли быть первым заместителем Председателя Верховного Совета Дементея Николая Ивановича. Я был человеком из другой команды и сначала не желал идти в подчинение к Николаю Ивановичу Дементею. За год с небольшим я убедился, что имею дело с добросовестным человеком, с человеком, который заботится о благосостоянии нашей Белоруссии. Это человек другой школы воспитания, чем я. Но я еще раз говорю, я убедился, что имею дело с добросовестным человеком, и никогда за всю свою работу под руководством Николая Ивановича Дементея я не сделал ни одного шага, за который мне было бы стыдно сегодня. Я и теперь и всегда буду, уважаемый Николай Иванович, относиться к Вам с глубоким уважением. Хочу сказать Вам спасибо за одно большое дело, которое Вы сделали ради Белоруссии: в это тяжелое время перестройки ни один человек в Белоруссии не погиб, ни один человек не был серьезно ранен, ни один депутат не был арестован или лишен депутатских прав, хотя все это было во всех соседних республиках. Я считаю это наибольшим Вашим достижением, что у нас шла перестройка спокойно. Сегодняшнее событие может содействовать тому, что будет какая-то радость у тех людей, которые не понимают серьезности ситуации. Я хотел бы, чтобы то, что было при Вас, то, что ни один человек в Белоруссии не пострадал серьезно в это очень сложное время, в том числе и во время путча, чтобы мы сохранили эту добрую традицию.

И я думаю, что те силы, которые способствовали сегодняшнему событию, у них хватит разума, чести, таланта для того, чтобы правильно воспринять это явление, чтобы трудиться на пользу нашего народа, нашей Белоруссии. Позвольте, уважаемые народные депутаты, от вашего имени, от меня сказать сердечное спасибо народному депутату Белоруссии, народному депутату СССР Николая Ивановичу Дементею. Поблагодарить его за работу на посту Председателя и пожелать ему доброй работы как народному депутату СССР и народному депутату БССР. *(Аплодисменты.)*».

ФУТБОЛ

## Каманда Марадоны губляе ачкі

*Адбыліся матчы 17-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: БАТЭ (Барысаў) – "Мінск" – 2:0, "Прамень" (Мінск) – "Дынама" (Брэст) – 1:1, "Гомель" – "Днепр" (Магілёў) – 2:0, "Гарадзея" – "Тарпеда" (Мінск) – 0:0, "Ісла" (Мінскі раён) – "Дынама" (Мінск) – 0:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 17 | 14 | 2 | 1 | 30–10 | 44 |
| Дынама (Мн) | 16 | 11 | 4 | 1 | 21–7 | 37 |
| Віцебск | 16 | 10 | 4 | 2 | 25–10 | 34 |
| Шахцёр | 16 | 9 | 5 | 2 | 19–6 | 32 |
| Слуцк | 17 | 9 | 3 | 5 | 21–11 | 30 |
| Дынама (Бр) | 17 | 6 | 8 | 3 | 29–21 | 26 |
| Нёман | 17 | 7 | 4 | 6 | 17–21 | 25 |
| Тарпеда-БелАЗ | 15 | 7 | 3 | 5 | 15–11 | 24 |
| Ісла | 17 | 3 | 8 | 6 | 9–15 | 17 |
| Гомель | 17 | 4 | 4 | 9 | 9–21 | 16 |
| Мінск | 17 | 3 | 6 | 8 | 18–22 | 15 |
| Смалявічы | 16 | 3 | 5 | 8 | 13–17 | 14 |
| Тарпеда | 17 | 2 | 6 | 9 | 7–20 | 12 |
| Гарадзея | 17 | 2 | 6 | 9 | 11–22 | 12 |
| Прамень | 17 | 2 | 5 | 10 | 13–29 | 11 |
| Днепр | 17 | 2 | 5 | 10 | 9–23 | 11 |

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны вынікі матчаў: "Шахцёр" (Салігорск) – "Віцебск, "Смалявічы" – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна).*



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Шлях у Еўропу

*Учора беларускія клубы даведаліся пра сваіх магчымых сапернікаў.*

Падчас жараб'ёўкі 3-га раўнда кваліфікацыі Лігі Еўропы стала вядома, што пераможца пары «Дынама» (Мінск) – «ДАК» (Славакія) у наступным раўндзе згуляе з «Зенітам» з Сакнт-Пецярбурга.

Пераможца пары **«Шахцёр» (Салігорск) – «Лех» (Польшча)** у наступнай стадыі згуляе з наймацнейшай камандай пары **«Генк» (Бельгія) – «Фола Эш»**(Люксембург), пераможца супрацьстаяння **«Дынама» (Брэст) – «Атрамітас» (Грэцыя)** сустрэнецца з пераможцам пары **«Жалезнічар» (Боснія і Герцагавіна) – «Апалон» (Кіпр)**.

Матчы 2-й стадыі пройдуць 26 ліпеня і 2 жніўня, а трэцяй стадыі – 9 і 16 жніўня.

Таксама вызначыліся і магчымыя сапернікі барысаўскага БАТЭ і фінскага ХІКа ў 3-й стадыі кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў. Гэта пераможца пары «Карабах» (Азербайджан) – «Кукесі» (Албанія).

Першы матч барысаўчане правядуць з фінскай камандай 25 ліпеня.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Сяргей ЧАЛЫ: «Справа перададзена ў пракуратуру»

*Два месяцы прайшло з таго часу, як у Мінску збілі вядомага беларускага эканаміста.*

Інцыдэнт адбыўся ў самым цэнтры сталіцы. Сяргей Чалы апынуўся ў Бальніцы хуткай дапамогі з разбітым тварам, зламаным носам і чэрапна-мазгавой траўмай.

Некаторыя звязвалі інцыдэнт з прафесійнай дзейнасцю Чалага, але сам ён распавёў "Народнай Волі", што, хучэй за ўсё, гэта не так.

Праз нейкі час інцыдэнт пракаментаваў і міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч**.

"*Факт застаецца фактам – банальная п'яная бойка дзвюх кампаній*, – распавёў ён. – *Злачынства ўдалося раскрыць па гарачых слядах, дзякуючы запісам з камер відэаназірання*".

Была распачата крымінальная справа, чацвярых чалавек затрымалі…

"*Следства закончылася, не так даўно справа была перададзена ў пракуратуру*, – распавёў "Народнай Волі" **Сяргей Чалы**. – *Магчыма, ужо праз тыдзень-два яна пойдзе ў суд, а ў хуткім часе пачнецца і сам працэс. У справе ў якасці абвінавачаных фігуруюць два чалавекі. Не ведаю дакладна, які артыкул ім прад'яўлены, але нешта звязана з хуліганствам*".

У бальніцы Сяргею зрабілі аперацыю, пасля чаго ён працягваў лячэнне ў неўрапатолага і праходзіў курс рэабілітацыі.

"*Зараз пачуваю сябе больш-менш нармальна*", – кажа эканаміст.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ПЫТАННЕ–АДКАЗ**

## Дзе можна купіць дазіметр?

*“Больш за трыццаць гадоў мінула пасля Чарнобыльскай трагедыі. Але ж, вядома, наступствы яе не паўсюль зніклі. І, адпраўляючыся ў лес па грыбы, я хацела б мець дазіметр. Дзе яго можна купіць?”*

**Алена КІРЫЕНКА, Гродна.**

*Не трэба блытаць дазіметр і радыяметр*, – тлумачыць экалагічны партал greenbelarus.info. – *Нярэдка іх выкарыстоўваюць як сінонімы, але на самай справе дазіметр паказвае назапашаную дозу іанізуючага выпраменьвання, а радыяметр – магутнасць дозы ў канкрэтны момант у канкрэтнай кропцы вымярэння. У Беларусі добра вядомы тры вытворцы дазіметраў: ТАА “Полимастер”, навукова-вытворчае ўнітарнае прадпрыемства “Atomtex” і ААТ “Амкадор-Белвар”.*

На сайтах гэтых прадпрыемстваў ёсць кантакты магазінаў, дзе можна атрымаць усю неабходную інфармацыю па кошце і функцыянальных здольнасцях дазіметраў і купіць неабходны тавар. Але спецыялісты адзначаюць, што “вельмі добрыя водгукі пакупнікі пакідаюць аб прадукцыі “Полимастера”.

*“У цэлым, аналізуючы розныя тэсты бытавых “дазіметраў”, кідаецца ў вочы высокая пагрэшнасць большасці мадэляў*, – піша экалагічны партал. – *Нярэдка яны паказваюць фон у паўтара раза вышэйшы звычайнага ўзроўню. Сюды можна таксама дадаць нізкую адчувальнасць і хуткасць “спрацоўвання”. На практыцы гэта азначае, што ў кожнай кропцы вымяраемай прасторы дазіметр неабходна трымаць дастаткова доўга, каб убачыць змены ўзроўню, альбо пераканацца, што змяненняў няма. Таму варта канстатаваць, што большая частка недарагіх дазіметраў – гэта простыя індыкатары, якія могуць паказваць узровень радыяцыі недакладна. Акрамя таго, запомніце – ніякім бытавым дазіметрам немагчыма вымераць узровень радыеактыўнасці ў прадуктах харчавання! Для такой праверкі патрэбны спецыяльныя апараты, якія выкарыстоўваюцца ў адпаведных лабараторыях”.*

**ПАМЯЦЬ**

## Да сустрэчы ў Ракуцёўшчыне!

*29 ліпеня ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна адбудзецца свята паэзіі і песні “Ракуцёўскае лета-2018”, прысвечанае памяці Максіма Багдановіча.*

107 год таму паэт, які жыў тады ў далёкім Яраслаўлі, наведаў Беларусь – Вільню і Ракуцёўшчыну. Запрасілі яго на радзіму браты Іван і Антон Луцкевічы. У фальварку іх дзядзькі Ракуцёўшчына будучы класік беларускай літаратуры і правёў два цудоўныя летнія месяцы. Менавіта там нараджаліся творы, якія пазней увайшлі ў знакаміты зборнік “Вянок”. Таму невыпадкова ў адноўленым фальварку штогод Літаратурны музей М. Багдановіча і збірае грамаду на традыцыйнае “Ракуцёўскае лета”. Свята распачнецца ў 11.00 гадзін з прывітальнай імпрэзы каля памятных камянёў. Далей у праграме – знаёмства з музеем і літаратурна-музычная імпрэза “У родным краі”, батлейка, традыцыйныя гульні, квэст, бард-сядзібнік. У Ракуцёўшчыну можна дабрацца на электрычцы Мінск–Маладзечна (да станцыі Уша) ці маршруткай (да вёскі Краснае).

**Міхась ЗАГОРСКІ.**

**ПРЭМ’ЕРА!**

## Расійскі рэжысёр паставіла «Жоўты пясочак» Васіля Быкава

*Новы сезон Магілёўскі абласны драматычны тэатр адкрые прэм’ерай спектакля паводле апавядання Васіля Быкава «Жоўты пясочак». Паказы пройдуць 14, 15 і 16 верасня на малой сцэне тэатра. Пастаноўку ажыццявіла малады рэжысёр Каміля Хусаінава, жанр вызначаны як «плач для шасці галасоў у 1-й дзеі».*

Дзея адбываецца ў Беларусі ў 1930-я гады, у разгар рэпрэсій. Героі – вельмі розныя людзі: партыец-бальшавік з рабочых, селянін, паэт, крымінальнік, былы белагвардзеец, чэкіст. Іх вязуць на машыне ад турмы НКУС у хваёвы лясочак, каб там расстраляць. Ці пашчасціць смяротнікам уратавацца, ці будуць яны супраціўляцца сістэме або пакорліва пойдуць на ўбой?

“*Трагедыя, расказаная Васілём Быкавым, – прыклад з тысяч, мільёнаў падобных крывавых гісторый*, – гавораць у тэатры. – *Што стала іх прычынай, як выправіць памылкі мінулага і не дапусціць паўтарэння катастрофы? Нехта запытаецца: навошта варушыць старое? Усё проста: каб “людзьмі звацца”.*

Каміля Хусаінава – студэнтка Расійскага дзяржаўнага інстытута сцэнічных мастацтваў (Санкт-Пецярбург). Яна нарадзілася ў Казахстане ў 1987 годзе, з 1988 года жыла ў Мінску. У 2010–2012 гг. вучылася ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў па спецыяльнасці «Рэжысура драматычнага тэатра» (майстэрня В. Катавіцкага), у 2012–2015 гг. – на курсе Валерыя Анісенкі. З 2015 г. – студэнтка Расійскага дзяржаўнага інстытута сцэнічных мастацтваў (г.Санкт-Пецярбург), спецыяльнасць – «Рэжысура драматычнага тэатра» (майстэрня Г.Р.Трасцянецкага).

Працавала памочнікам рэжысёра ў Беларускім незалежным «Тэатры Ч». У сакавіку гэтага года Каміля разам з артыстамі Магілёўскага драматычнага тэатра стварыла эскіз спектакля ў рамках Майстэрні маладой рэжысуры Міжнароднага маладзёжнага тэатральнага форуму “M.@rt.кантакт”. Эскіз быў прыхільна прыняты гледачамі, заслужыў пазітыўную ацэнку экспертаў; кіраўніцтва тэатра запрасіла маладую рэжысёрку працягнуць пачатую працу і паставіць у наступным сезоне паўнавартасны спектакль у камернай прасторы.

Дарэчы, гэта трэцяя пастаноўка паводле твораў Васіля Быкава ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры. У 1972 годзе тут выйшаў спектакль «Сотнікаў», яго паказалі 14 разоў. У 2009 годзе рэжысёр Віктар Куржалаў паставіў баладу «... и Вера» паводле рамана «Кар’ер», спектакль быў паказаны 17 разоў і зараз не ідзе.

Ролі ў спектаклі па аповесці Быкава выконваюць лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі **Іван Трус, Павел Зароўскі, Андрэй Корзан, Чэслаў Вількін, Аляксандр Куляшоў, Данііл Самкнулаў, Максім Чарнюк, Ірына Дунчанка, Анжаліка Барчан, Юлія Ладзік.**

Білеты ўжо цяпер можна набыць у касе тэатра, кошт недарагі – 7 рублёў 50 капеек і 6 рублёў 50 капеек.

Дарэчы, спектакль “Жоўты пясочак” будзе мець узроставае абмежаванне 16+.

**Аліна ВЕТРАВА.**

**ПУБЛІКАЦЫІ**

*Гадоў дзесяць таму мне давялося ўдзельнічаць у пісьменніцкім сімпозіуме, што праходзіў на беразе Міжземнага мора, у Марселі. Пасяджэнні праходзілі нуднавата, а на марскім даляглядзе бялеў замак Іф, у якім я “пабываў” яшчэ школьнікам, дзякуючы раману Дзюма “Граф Монтэ-Крыста”. Сагравала душу і думка пра тое, што непадалёк жылі адзін з маіх улюбёных пісьменнікаў Іван Бунін, чый род паходзіў з Беларусі, і мастак Марк Шагал, які ўсё жыццё маляваў свой родны Віцебск. Пасля літаратурных дыскусій я любіў завітаць у вялікую (чатырохпавярховую!) кнігарню, што знаходзілася побач з гатэлем. Аднаго разу зайшоў у аддзел “Мастацтва”, доўга блукаў паміж стэлажоў з шыкоўнымі альбомамі славутых мастакоў. Раптам на адной з вокладак кінуліся ў вочы знаёмыя віцебскія званіцы, рука машынальна пацягнулася да свайго, і я з трымценнем у душы доўга гартаў альбом таго самага Шагала. Там ледзь не на кожнай старонцы сустракаліся віцебскія краявіды, а з трох партрэтаў глядзеў Гіём Апалінэр, чый дзед быў беларускім паўстанцам… Не выходзячы з тае марсельскай кнігарні, я нібы імгненна вярнуўся ў Беларусь, дзе жывапісных палотнаў Шагала няма ніводнага. А маглі б быць… Нядаўна паэт Ігар Шклярэўскі падараваў мне паэтычную анталогію Яўгенія Еўтушэнкі “Поэт в России больше, чем поэт”. Трапіў у яе і знакаміты мастак, які быў яшчэ і выдатным паэтам. Тую анталогію і ў Маскве не ў кожнай кнігарні знойдзеш, не кажучы ўжо пра кнігарні мінскія. Чытаючы яе, я і даведаўся пра самую вялікую мару Марка Шагала. Даведайцеся ж пра яе і вы, шаноўныя чытачы “Народнай Волі”.*

**Міхась СКОБЛА.**

## Марк ШАГАЛ:
# «Больше всего я хотел бы вернуться хоть сейчас в Витебск, и навсегда…»

**Евгений Евтушенко:**

– В 1963 году Марк Шагал гостеприимно принял меня и мою жену Галю на своей французской вилле, угощал нас витебскими драниками, подарил мне очаровательный рисунок с надписью по-русски: “Для Евтушенко на память”, а затем ошеломил меня мягкой, но продуманной фразой:

– Больше всего я хотел бы вернуться хоть сейчас в Витебск, и навсегда.

Жена художника тяжело вздохнула – видимо, слышала это не первый раз. Она опустила глаза, не желая участвовать в разговоре. Дочь Ида, со сдержанной неодобрительностью пожав плечами, начала убирать тарелки со стола.

– Я хочу подарить государству все мои картины, принадлежащие мне... с одним условием: чтобы мне дали в Витебске домик, где я мог бы жить и спокойно умереть, – настойчиво продолжал Шагал.

– Но разве вы не знаете, что сейчас у нас происходит с живописью? Ваши картины никто не выставит... – не выдержал я.

– Ну и что?.. Не выставят сейчас, выставят потом, – не сдавался Шагал. – Пусть даже после моей смерти. Но мои картины должны быть именно там, в Витебске. И умереть я должен там.

– Но ваш Витебск теперь совсем другой. Вы его не узнаете, – старался я убедить Шагала в бессмысленности такого поворота его судьбы, который мог оказаться трагическим, когда из всемирно знаменитого художника он стал бы на родине никем и на него показывали бы пальцами издали, на всякий случай не приближаясь.

– Нет, я узнал бы мой Витебск, и Витебск меня бы узнал, – упорствовал Шагал.

Именно к Витебску он обратился в 1944 году в стихах на идише через океан из Америки, чувствуя боль родного города, корчащегося в огне: “*Давно уже, мой любимый город, я тебя не видел, не слышал, не разговаривал с твоими облаками, не опирался на твои заборы... Я не жил с тобой, но не было моей картины, которая не дышала бы твоим духом и отражением. Я смотрю, мой город, на тебя издалека, как моя мать на меня смотрела из дверей, когда я уходил. На твоих улицах враг. Мало ему было твоих изображений на моих картинах, которые он громил везде. Он пришел сжечь мой настоящий дом и мой настоящий город*”.

Я лихорадочно думал о том, как вернуть Шагалу Витебск, а Витебску Шагала, но внутри меня все еще звучали недавние нападки Хрущева на художников в Доме приемов на Ленинских горах. Мне удалось выехать в Европу после перебранки с тем же Хрущевым лишь благодаря его импульсивной отходчивости. Я попытался уговорить Шагала отложить мысль о возвращении, да еще в такое неблагоприятное время. Но он не сдавался. Его ничто не пугало.



– Витебск... – повторял он. – Витебск... Я хочу подышать витебским воздухом... Как это сделать?

– Единственный выход – обратиться к Хрущеву, – сказал я, поняв, что отговаривать Шагала бесполезно, а значит, надо ему помочь. Я был всегда идеалистом и помню, что у меня даже заискрилась мысль: а вдруг обращение Шагала по-человечески тронет Хрущева, и возращение этого великого художника на родину изменит отношение государства к искусству, поможет наконец-то научить нас терпимости к разнообразию стилей.

– Хорошо, Марк Захарович, – сказал я. – Я передам ваше письмо Хрущеву.

Шагал обнял меня и ушел в другую комнату. Вава, жена Шагала, и дочь Ида скептически переглянулись.

Он появился через полчаса, держа в руках одну из лучших книг с репродукциями своих картин. На развороте было написано: “Дорогому Никите Сергеевичу Хрущеву с любовью к небу и нашей Родине. Марк Шагал”. Я заподозрил ошибку: несколько странное “с любовью к небу” по фрейдовской теории обмолвок само собой написалось вместо “с любовью к нему”.

– Вы, наверно, ошиблись, Марк Захарович... – заметил я. – Здесь, видимо, нужно “м”, а не “б”...

– Да-да, вы правы, – сказал Шагал, исправляя букву, что, впрочем, осталось заметным.

Хотя я был тогда идеалистом гораздо большим, чем сейчас, но понимал и тогда, что идеалистические замыслы, становящиеся политикой, увы, не могут быть осуществлены без помощи политиков. Через корреспондента газеты “Юманите”, сопровождавшего меня в той поездке, я запросил срочного свидания с генсеком французской компартии Морисом Торезом по очень важному и неотложному делу. Хотя компартия Франции вовсе не находилась на нелегальном положении, наше свидание было обставлено в духе подпольного Сопротивления: несколько раз меня пересаживали из одной зашторенной машины в другую, пока мы не оказались у ворот, перед которыми стояли два автоматчика в камуфляжных куртках. Своего корреспондента дальше не пустили, и я одиноко зашагал через двор. Тут мне навстречу вышел высокий широкоплечий человек с лысоватой маленькой, не по росту, головой и с гигантским черным догом, агрессивно рвущимся с поводка. Однако рука вождя французских коммунистов была хоть и ласкова, а тверда.

Он пригласил меня в свой довольно буржуазный по обстановке дом, и я за чашечкой кофе изложил цель своего визита: было бы хорошо, если бы Морис Торез, обратившись в наше политбюро, письменно поддержал просьбу Марка Шагала вернуть ему советское гражданство, чтобы он мог навсегда поселиться в родном Витебске.

Я вскользь добавил, что, как мне кажется, это было бы в интересах французской компартии, и товарищ Торез заметно оживился, сказав, что он непременно напишет на днях такое письмо.

Однако я объяснил, что лучше отдать это письмо мне, потому что я смогу вручить его непосредственно Никите Сергеевичу вместе с подарком Шагала. Мой собеседник подумал и согласился. Письмо доставили мне в гостиницу через день, и там было вполне позитивное заключение о полезности возвращения Марка Шагала и для престижа СССР, и для международного коммунистического движения.

Примерно такое же письмо мне дал посол СССР во Франции Сергей Александрович Виноградов, уточнив, что вообще-то подобные письма лучше направлять диппочтой, но уж так и быть, он сделает исключение.

– Хотя, – добавил посол, посмеиваясь, – мне еще может нагореть за это.

И как в воду глядел!

В московском аэропорту меня встретила жена, вернувшаяся домой раньше. И хотя трусихой она не была, но заметно волновалась.

– За тобой прислали машину из ЦК, от Лебедева.

Владимир Семенович Лебедев был помощником Хрущева, и именно он, надо отдать ему должное, помог мне напечатать в “Правде” стихотворение “Наследники Сталина”. Но сейчас он был мрачен, как туча: времена стремительно менялись.

– Ну вы сделали нам подарочек: напечатали без спросу автобиографию во Франции, а мы тут расхлебывай... Голову потеряли. Забыли, где живете! А это что у вас в руках?

– Книга. Художника Марка Шагала. Всемирно известного.

– Не знаю. Не слыхал о таком. Эмигрант, что ли?

– Да, но не политический. С надписью для Никиты Сергеевича. Он вернуться хочет. В родной Витебск. Вместе со своими картинами.

Лебедев взял книгу, полистал:

– А что это тут сплошные евреи, и все в лохмотьях?..

– Они же дореволюционные... За чертой оседлости... Если выставить эти портреты и сопоставить с современностью, то ясно будет, какие произошли перемены.

– Ну, это еще неизвестно, что именно станет ясно... – пробурчал Лебедев. Он явно был не в духе. И вдруг его палец замер на одной из репродукций:

– А что они тут под потолком делают?

– Целуются, Владимир Семеныч...

– Евреи, да еще и летают... Не буду я эту книгу Никите Сергеичу совать. Вы что, рехнулись там, в своих Франциях?

– А вот у меня письмо Мориса Тореза в поддержку возвращения Шагала.

– У нас деньги тянет, а еще нас и учит!..

– А вот и письмо посла нашего Виноградова, тоже в поддержку.

– А ему вообще пора домой... Заберите-ка вы эту книжку от греха подальше и спрячьте. Не буду я Никиту Сергеича раздражать. Потом еще спасибо скажете.

Единственное, о чем я жалею, что не забрал тогда эту книгу. Потом меня остановил как-то в мосфильмовском коридоре Михаил Ильич Ромм:

– Вы знаете, Женя, книга с автографом Шагала, которую вы привезли Хрущеву, оказалась у меня в руках. Сейчас спешу, надо поговорить...

Но мы с ним так и не поговорили – он вскоре умер. У кого сейчас эта книга?

*(Из книги Евгения Евтушенко «Поэт в России больше, чем поэт». Москва, 2014.)*

## Марк ШАГАЛ
## ДА ВЫСОКАЙ БРАМЫ

*Толькі тая краіна мая,*
*што жыць у душы маёй не перастае,*
*як свой, без віз адпаведных,*
*я ўваходжу ў яе.*

*Яна бачыць мяне ў бядзе,*
*у адчаі, ў галечы,*
*яна мяне спаць кладзе*
*і духмяным каменем*
*мае акрывае плечы.*

*Ува мне зялёныя цвітуць сады.*
*Кветкі выдуманыя,*
*ўбачаныя ў сне.*
*Ува мне мае вуліцы,*
*цягнучыся, крывуляцца,*
*толькі дамоў не ўбачыш на іх,*
*яны руінамі сталі*
*гадоў малечых маіх.*

*Жыхары ў паветры блукаюць,*
*як прыбышы,*
*яны жытла шукаюць,*
*яны жывуць у маёй душы.*
*Вось чаму, калі сонца*
*ледзь усміхнецца,*
*зрэдчас усмешкай мае*
*засвецяцца вочы*
*альбо я плачу,*
*як лёгкі дожджык уночы.*

*Я помню час,*
*калі меў я дзве галавы...*
*Гэта было якраз,*
*калі абедзве галовы*
*ахінаціся ў вэлюм кахання,*
*і зніклі галовы, як хмель вясновы,*
*як водар ружы, дазвання.*

*Цяпер мне здаецца,*
*калі я назад скірую хаду,*
*я ўсё роўна ўперад пайду,*
*у напрамку высокай брамы,*
*пад якой за разбуранымі*
*сценамі храмы,*
*дзе начуюць адны*
*зламаныя бліскавіцы*
*і адгрымелыя перуны.*

**Пераклад з ідыш Рыгора БАРАДУЛІНА.**

